# наша свабода

**№60(147) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА**

**11 ЧЭРВЕНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК**

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

**КОШТ СВАБОДНЫ**




# Они не исчезли. Их убила спецгруппа

## *Свидетельствуют следователи прокуратуры*

Вчера редакция получила по электронной почте публикуемый ниже материал. Он касается тех вопросов, которые наиболее волнуют сейчас наше общество – таинственного исчезновения Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского, Дмитрия Завадского. Следователи прокуратуры доносят до сведения общества то, что до сих пор скрывалось либо прикрывалось недомолвками.

Информация, приведенная в материале, действительно страшная. Не хочется верить в то, что в Беларуси, в Минске действительно орудует банда головорезов, готовых убить любого, на кого покажет пальцем высочайшее начальство.

Мы приводим полученный документ полностью, так как считаем, что право каждого гражданина Беларуси – знать и такую информацию.

Отметим, что одновременно с нами это письмо получили по электронной почте многие другие средства массовой информации, как независимые, так и государственные (например, газета «Советская Белоруссия»). Мы надеемся, что все они также опубликуют рассказ следователей прокуратуры, – только общее знание о преступлениях может положить им предел и привести преступников на скамью подсудимых.









«СРЕДСТВАМ МАССОВОЙ ИНФОРМАЦИИ
ПРАВОЗАЩИТНЫМ ОРГАНИЗАЦИЯМ
7 ИЮНЯ 2001 ГОДА. ИНТЕРВЬЮ С СОТРУДНИКАМИ ОРГАНОВ ПРОКУРАТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Я, сотрудник органов прокуратуры Республики Беларусь, **Петрушкевич Дмитрий Павлович**, работаю в следственной группе прокуратуры РБ по расследованию уголовных дел по факту исчезновения журналиста Дмитрия Завадского, убийства азербайджанской семьи, похищения начальника Контрольно-ревизионного управления министерства культуры Грачева и других. Обвиняемыми по этому делу являются один бывший сотрудник спецподразделения «Алмаз» МВД РБ Игнатович Валерий, действующий сотрудник спецподразделения «Алмаз» Малик и еще два человека.

Когда я ознакомился со всеми материалами уголовных дел, я решил обратиться к средствам массовой информации и к международным организациям, чтобы сообщить о том, как обстоят дела в Республике Беларусь с расследованиями похищений людей, в том числе известных политиков, которые до настоящего времени не найдены. Вкратце, как я к этим выводам. В 2000 году бывший сотрудник спецподразделения «Алмаз» Игнатович был задержан на территории Чечни. После задержания с ним общались работники российских спецслужб. Он рассказал, что он по указанию высших должностных лиц силовых министерств РБ выполняет специальное задание. Его продержали под арестом 10 дней и выпустили. После того, как Игнатович вернулся в Беларусь, его задержали. На момент задержания он совершил множество преступлений в составе сформировавшейся преступной группы. Среди них – похищения, убийства, разбои, но и наиболее актуально-значимые дела – это похищения и убийства политиков. Когда «разрабатывали» Игнатовича, установили, что 13 мая 2000 он вместе со своими подельниками под руководством командира спецподразделения МВД РБ СОБР Дмитрия Павличенко участвовал в похищении начальника Контрольно-ревизионного управления министерства культуры РБ Грачева Александра Викторовича. По Грачеву. Его похищение произошло на машине «скорой помощи». В похищении участвовало 5-6 человек. Люди действовали нагло, явно хорошо организованно. Его вывезли в район Северного кладбища, где приставляли пистолет к голове, угрожали смертью. После задержания Игнатовича поступила также информация, подтверждавшаяся материалами уголовного дела, что в похищении Грачева участвовал командир СОБР Павличенко. Грачев опознал Павличенко как человека, который участвовал в его похищении. На задержание Павличенко, как возможного участника преступной группы, было дано «добро» руководства прокуратуры Беларуси.

Вопрос: — А кто давал указания арестовать Павличенко?

Ответ: — Постановление об аресте вынесено от имени работников Комитета Госбезопасности. А санкцию поставил замгенерального прокурора Снегирь.

Вопрос:— Снегирь?

Ответ:— Да.

*Окончание на стр.3*

**АДГАЛОСКІ**

## Вайна зь немцамі працягваецца

Вэтэранскія арганізацыі Беларусі аднаголосна выказаліся за вываз з нашае зямлі праху нямецкіх салдат і афіцэраў. Сёньня Апякунскі савет і выканаўчы камітэт Таварыства міласэрнасьці інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны ладзяў Слуханьні на тэму: «Лёс пагадненьня па даглядзе вайсковых пахаваньняў між Беларусьсю й Нямеччынай». Гэтае пагадненьне падпісанае ўрадамі абедзьвюх краінаў пяць гадоў таму, але дагэтуль не ратыфікавана беларускім парлямэнтам.

У Беларусі зарэгістраваныя 237 вайсковых пахаваньняў, у тым ліку 22 – з часоў Першай усясьветнай вайны, 215 – з часоў Другой, і 75 пахаваньняў, дзе знайшлі апошні прытулак палонныя немцы зь лягераў НКВД. Помнікаў аніводная з магілаў ня мае. Крыжы пастаўленыя толькі на адных магілках у Тарасаве, што пад Менскам, дзе пахаваныя палонныя.

Калі ўрады абедзьвюх краінаў упершыню дамаўляліся аб доглядзе вайсковых пахаваньняў, беларускія вэтэранскія арганізацыі пагражалі перашкодзіць выкананьню пагадненьня, нават калі яно будзе ратыфікаванае парлямэнтам. Да голасу вэтэранаў, як аднадумцаў беларускіх уладаў, зразумела, не маглі не прыслухацца. І таму пасярод 1997 году ўрад адклікаў дакумэнт з парлямэнту й даручыў міністэрству замежных справаў яго дапрацаваць.

За пяць гадоў нічога не зьмянілася. Вэтэраны па-ранейшаму не зьбіраюцца аддаваць нават мёртвуму ворагу аніводнага кавалку беларускай зямлі. Аляксандар Лукашэнка ў гэтай сытуацыі апынуўся паміж молатам і кавадлам. З аднаго боку, перад выбарамі неабходна заваёўваць міжнародныя аўтарытэт. З другога, хочацца дагадзіць электарату. Вось чаму нядаўна ён выказаўся на карысьць ратыфікацыі дамовы з адзінай умовай, што далейшы лёс гэтага пытаньня будзе залежаць ад пазыцыі вэтэранаў і сем'яў загінулых.

Беларускія вэтэраны сьцьвярджаюць, што немцы й без усялякіх пагадненьняў павінны даглядаць магілы тых, хто вызваляў сьвет ад фашызму. У Беларусі вэтэраны прапаноўваюць, калі й стварыць могілкі, то з абавязковым пісьмовым папярэджаньнем на кшталт: «Тут пахаваныя нямецкія жаўнеры, у якіх не атрымалася заваяваць Беларусь».

Яшчэ больш радыкальная прапанова паступіла ад Менскай гарадзкой вэтэранскай арганізацыі: «Няхай забіраюць да д'ябла ўсе свае парэшткі й ачысьцяць ад іх нашую зямлю». Здаецца, вайна паміж народамі Нямеччыны й Беларусі ўсё яшчэ працягваецца. У свой час падобныя пагадненьні даўно ратыфікаваныя ў Расеі ды на Украіне.

**Мар'яна ДУНЦАВА**
**Радыё «Рацыя»**

## Кремлевский сюрприз для Лукашенко перед выборами

**Агентство «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com) из Москвы**

*В тот же день, когда Александр Лукашенко заявил в Совете Республики о своем решении повторно баллотироваться в президенты и назвал выступление в прямом эфире программы «Время» на ОРТ главы группы ОБСЕ в Минске Ханса-Георга Вика «пакостью и провокацией», Кремль преподнес ему новый неприятный сюрприз.*

«В Москве считают, что эмоциональные высказывания президента Беларуси на 18-й сессии парламентского собрания Беларуси и России в Гродно не укрепляют международный престиж Союза», – синхронно сообщили агентства ИТАР-ТАСС и Интерфакс со ссылкой на «высокопоставленный источник, близкий к Совету безопасности Российской Федерации».

Московские агентства напомнили, что А.Лукашенко обвинил руководства правительства России в «подрывных действиях» и потребовал отчета высшего российского руководства перед думским спикером Геннадием Селезневым.

«Как заметил источник, противопоставление исполнительной и законодательной власти в РФ бесперспективно. Он также высказался против публичного обсуждения кадровых вопросов Союза», — сообщили агентства, добавив, что А.Лукашенко предложил возглавить союзное государство Г.Селезневу и Павлу Бородину.

К тому же не такую анонимную оплеуху белорусскому лидеру отвесил сам премьер-министр России Михаил Касьянов, который заявил, что «уже можно забыть о той критике», которую А.Лукашенко высказал в адрес российского правительства «за якобы неисполнение им обязательств перед союзным государством».

По словам М.Касьянова, высказывания А.Лукашенко «носили эмоциальный характер» и были основаны на неправильной информации. Глава союзного Совета министров М.Касьянов добавил, что у председателя Высшего государственного совета А.Лукашенко просто не было объективной информации.

Данные заявления совпали с неофициальным решением Совета безопасности России ограничить присутствие нынешнего президента Беларуси в российском телеэфире при одновременном начале раскрутки двух промосковски настроенных потенциальных конкурентов А.Лукашенко на предстоящих 9 сентября президентских выборах – Леонида Синицына, бывшего главу президентской администрации, и Наталью Машерову, дочь Петра Машерова.

*Окончание на стр.3*

## БНФ – за Домаша

9 чэрвеня нечарговы сойм БНФ «Адраджэньне» прыняў рашэнне збіраць подпісы толькі за аднаго кандыдата. Разам з тым, была прынята заява па падтрымцы як мажлівага кандыдата Сямёна Домаша. Лідэр партыі Вінцук Вячорка казаў на сойме пра неабходнасць тэрміновага правядзення Кангрэса дэмакратычных сілаў — перад рэгістрацыяй кандыдатаў.

## Гісторыя Беларусі па-гомельску

Для студэнтаў першага курса Гомельскага дзяржаўнага універсітэта іспыт «Гісторыя Беларусі» стаў называцца «Гісторыя Беларусі ў кантэксце вялікіх дзяржаваў». Пры гэтым пад гэтым азначэннем разумеецца толькі Расія.

## Скралі Шагала

Як паведамляе *Associated Press*, з Яўрэйскага музея ў Нью-Йорку зьнікла карціна Марка Шагала. Гэта эскіз 1914 года да вядомага палатна «Над Віцебскам», які ацэньваецца прыкладна ў адзін мільён долараў. У гэты музей зараз знаходзяцца каля 60 карцінаў Шагала, прывезеныя на выставу з Трэцьякоўскай галерэі ў Маскве, Дзяржаўнага Рускага музея ў Санкт-Пецярбургу і з іншых экспазіцыяў.

## Паскораныя візы ў ЗША

Служба іміграцыі і натуралізацыі ЗША з 1 чэрвеня перайшла на новую праграму паскоранай выдачы візаў. Цяпер замежныя бізнесоўцы, спартоўцы і дзеячы культуры, заплаціўшы 1.000 долараў ЗША, могуць атрымаць узяную амерыканскую візу на працягу 15 дзён, а не 3 месяцаў, як гэта было раней.

## Гарэлка даражэе штомесяц

У Беларусі чарговым разам – цяпер на 4% — павялічыліся кошты на белую гарэлку. Паўлітровая пляшка гарэлкі «Крышталь-100» стала каштаваць 1.851 рубель, «Белая Русь» і «Крышталь-люкс» — 1.910 рублёў. Гэтае падаражэнне стала сёлета ўжо шостым, а наогул з пачатку года гарэлка падаражэла на 24,7%.

## Выстава здымкаў *PLAYBOY*

8 чэрвеня ў канцэртнай зале «Мінск» адкрылася выстава «Лепшыя фатаграфіі амерыканскага і расійскага часопіса *PLAYBOY*». Тут прадстаўленыя 200 лепшых фатаграфічных работ з гэтых выданняў. Выстава працуе да 7 ліпеня.

**НАДВОР'Е**




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1390**

# Они не исчезли. Их убила спецгруппа

## *Свидетельствуют следователи прокуратуры*

*Окончание. Начало на стр.1*

Вопрос: — Почему же на последней пресс-конференции он отказался, что ставил подпись?

Ответ: — Насколько я знаю, там Снегирь сказал, что Павлюченко задерживали работники КГБ. Это фактически так, но он не сказал, что без санкции прокурора невозможно задержать такого человека. Павлюченко был помещен в изолятор КГБ, где генеральный прокурор Божелко лично с ним беседовал и требовал от того, чтобы тот сознался, где же все-таки находится журналист Завадский? На тот момент следствие интересовал больше всего Завадский. От Павлюченко, после того, как с ним побеседовал Божелко, поступила информация — что труп Завадского находится в районе Северного кладбища. Вероятнее всего, там же находятся и пропавшие белорусские политики – Гончар, Красовский, Захаренко. И в тот же день было приблизительно установлено место, где он захоронен, где находится его труп, потому что там никто не сомневался, что Завадский действительно убит. И лично Божелко подписал запрос на имя Генерального прокурора России Устинова. Он просил предоставить технику, предназначенную для отыскания трупов в земле, а также специалистов, поскольку в Беларуси такая техника на тот момент отсутствовала. Отсутствует она и сейчас. Это письмо было отправлено, по-моему, или 21, или 22 ноября. После этого, 27 ноября указом президента Лукашенко снимается с должности генпрокурор, министр культуры и председатель КГБ, а на следующий день уже направляется новая бумага на имя Устинова. Указывается, что необходимость проведения работ по отысканию трупов в земле отпала. То есть, тем самым, по-моему, Лукашенко сам и признал, что не хочет, чтобы труп Завадского был найден. После ареста Павлюченко был помещен в следственный изолятор КГБ. Но на следующее утро он, как ни в чем ни бывало, вышел из следственного изолятора. Причем выпустили его оттуда сотрудники Совета Безопасности, причем по личному указанию тогдашнего секретаря Совета Безопасности Беларуси Шеймана. На следующий день проводился осмотр на территории военной части 3214, где работал Павлюченко, и которая фактически являлась базой для этой преступной группировки. В тот день туда приехали сотрудники прокуратуры Республики Беларусь в сопровождении офицера спецподразделения «Альфа», это спецподразделение КГБ, и попытались произвести осмотр. Но потом явился лично Павлюченко, который в тот момент должен был находиться в следственном изоляторе, и раздался телефонный звонок. Человек на другом конце провода сказал, что он Шейман и что у них есть десять минут на то, чтобы убраться с территории военной части. То есть, Шейман однозначно боялся, что там будут обнаружены какие-то документы, какие-то записи или снимки. Спустя какое-то время и Божелко, и Мацкевич были лишены своих должностей, видимо, за проявленное усердие в отыскании Завадского, а Шейман, не имеющий высшего юридического образования, стал генеральным прокурором. Также можно добавить, что руководил следственно-оперативной группой министр внутренних дел Наумов, который очень хорошо знаком как с Игнатовичем, так и с Маликом. И Наумов до сих пор их посещает в следственном изоляторе.

Вопрос: — Вы говорите, что Наумов несколько раз ходил в следственный изолятор КГБ. Это со следователями он ходил или сам по себе?

Ответ: — Нет, он сам по себе.

Вопрос: — Без протокола?

Ответ: — Без протокола, без какого-либо оформления документов. То есть документального подтверждения его посещения вы не найдете нигде. Это естественно. Я так думаю, что Наумов снабжает их информацией, потому что преступникам известны данные о почти всех членах следственной группы. Малик и Игнатович постоянно угрожают следователям. Им известны данные о личной жизни, о том, где кто проживает из членов следственной группы. То есть, тут можно сделать вывод, что этой информацией их снабжает Наумов. Если говорить о почерке совершения преступления, то тут однозначно прослеживается связь и с похищением Захаренко, и с похищением Гончара и Красовского. Так же, как похищали Грачева, как похищали предпринимателя Быкова, о деле которого широко неизвестно... Вероятнее всего, все это совершила эта преступная группировка. В каждом похищении было задействовано несколько автомобилей, участвовало 5-10 человек. Похитители были хорошо организованы, действовали нагло и уверенно. Кстати, в автопарке СОБРа имеется машина скорой помощи. Она использовалась при похищении Грачева. Есть иномарки различного класса и стоимости – проблем с транспортом у них нет. После того, как стараниями Лукашенко Генеральным прокурором назначили Шеймана, следствие по этому делу превратилось в фарс. У нас есть копии материалов уголовного дела. Имеются заключение экспертиз, постановление о задержании Павлюченко, санкционированное руководством КГБ и прокуратуры, и другие материалы.

Я, бывший следователь прокуратуры **Олег Анатольевич Случек**, располагаю информацией о следующем. После референдума 1996 года секретарем Совета Безопасности РБ Шейманом было дано поручение командующему внутренними войсками Сивакову создать команду, которая смогла бы выполнять любые поручения, вплоть до убийства. Сиваков поручил своему подчиненному офицеру бригады специального назначения внутренних войск Дмитрию Павлюченко подобрать людей для выполнения спецопераций. Была создана группа, в которую в разное время входили обвиняемые ныне по уголовному делу о похищениях и убийствах людей – Игнатович, Гуз, Малик, Саушкин, а также 5-6 человек, не установленных следствием. Группу возглавлял Павлюченко. Этой группе было приказано отработать схему похищения, убийства, а затем захоронения трупов. Схема должна была исключать возможность обнаружения трупов. Фактически это было задание разработать схему «идеального убийства», потому что если нет трупа, то нет преступления. При убийствах для исключения опознания в случае обнаружения трупов решили использовать пистолет. Это был пистолет, который невозможно было впоследствии опознать – это пистолет, которым в Республике Беларусь приводятся в исполнение смертные приговоры. Способ убийства выбрали – стрелять в голову. Этот пистолет давался Павлюченко на один-два дня, а после выполнения заказа этот пистолет возвращался на место. После разработки детальной схемы «идеального убийства» и одобрения высшей властью группе было поручено опробовать эту схему на криминальных авторитетах. Первым пропал белорусский «вор в законе» Щавлик. Затем пропадают менее крупный «авторитет» Мамонтенок, а также более-менее крупные авторитеты, криминальные авторитеты, живущие на территории Республики Беларусь. Тогда же в криминальных кругах стали ходить слухи о том, что властью была создана группа, которая занимается похищениями и убийствами криминальных авторитетов. После исчезновения вышеуказанных лиц шума никто не поднял. Эту схему посчитали идеальной, и группе стали поручать еще более серьезные «заказы» — политические. Пропадает Захаренко, затем пропадают Гончар с Красовским, и последним пропадает журналист Завадский. Все указания на проведение операций поступали к Павлюченко непосредственно от Сивакова. Сиваков получал их от Шеймана. После отставки Сивакова группа перешла под полный контроль нового министра внутренних дел Наумова. Всего группой было совершено более 30 убийств. А также были совершены разбойные нападения и убийства из корыстных побуждений, по которым в данное время они и привлекаются к уголовной ответственности. Члены группы были уверены в своей безнаказанности. Но с Завадским у группы вышел прокол. Данные экспертизы доказали причастность Игнатовича к похищению журналиста Завадского. В багажнике машины Игнатовича была найдена лопатка со следами биологических выделений пропавшего. Возможно, Завадский действительно знал правду о чеченской «карьере» Игнатовича. Но я думаю, Завадский был похищен и убит из-за того, что он был личным оператором Лукашенко, однако затем ушел от него и перешел на работу к Шеремету и стал в оппозицию к своему президенту. А, как известно, Лукашенко ничего не забывает и ничего не прощает.

Вопрос: — Правда ли, что люди, занимающиеся расследованием деятельности этой группы, умирают очень странной смертью?

Ответ: — С января месяца по данное время умерли при странных обстоятельствах два оперуполномоченных уголовного розыска, которые занимались раскрытием данных преступлений.

Вопрос: — От чего они умерли?

Ответ: — Сердечный приступ. Но до этого ничего не предрасполагало к их смерти. Я считаю, что они что-то узнали, и просто власти не хотели, чтобы это вышло наружу. Их подозревали также в сотрудничестве с прессой, в «сливе» информации.

Вопрос: — Откуда получена вся эта информация?

Ответ: — Эту информацию мне передали действующие сотрудники Комитета государственной безопасности и прокуратуры. Как вы сейчас понимаете, они сделали это с риском не только для карьеры, но и для собственной жизни».

**ВЫБАРЫ**

# «Адзіны калектыў, гэта вельмі важна»




Фота Ул.ШЛАПАКА

Мінулыя выхадныя выдаліся надзвычай напружанымі для патэнцыйнага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі Міхаіла Чыгіра. 10 чэрвеня ў мінскі Дом ветэранаў з рэгіёнаў з'ехаліся члены ініцыятыўнай групы былога кіраўніка ўрада. Самаго М.Чыгіра на мерапрыемстве не было, бо разам з калегамі па «пяцёрцы» – экс-міністрам абароны Паўлам Казлоўскім ды лідэрам «Рэгіянальнай Беларусі» Сямёнам Домашам – ён знаходзіўся ў Маскве. Напрыканцы мінулага тыдня аўтар праграмы «Времена» Грамадскага расійскага тэлебачання (ОРТ) Уладзімір Познер запрасіў «пяцёрку» да ўдзелу ў праграме, якая выйшла ў прамы эфір учора ўвечары.

На сходзе, які правёў кіраўнік штаба Міхаіла Чыгіра, былы прарэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта Анатоль Паўлаў, праходзіла знаёмства сяброў ініцыятыўнае групы. Вось як пракаментаваў падзею сам А.Паўлаў. «Мы сабраліся, каб вырашыць некаторыя тэхнічныя пытанні, паглядзець адзін на аднаго, колькі нас. Каб людзі бачылі, што яны – адзіны калектыў, гэта вельмі важна. На сёняшні дзень у ініцыятыўную групу ўваходзяць звыш за тысячу чалавек, і яе фарміраванне завершыцца толькі ў аўторак. Мы маглі б набраць і тры тысячы, калі б ставілася такая самамэта. Але мы зыходзім з якасці працы, бо мы добра разумеем, што М.Чыгір з'яўляецца асноўнай мішэнню для ўладаў, і таму мы баімся розных правакацыяў, што вымагае найпільнейшага адбору людзей», — заявіў Анатоль Паўлаў.

Пра магчымасць правакацыяў гаварыў напярэдадні ад'езду ў Маскву і сам Міхаіл Чыгір. «Можна падаць дакументы на рэгістрацыю хоць сёння. Але мы не спяшаемся гэтага рабіць. Я дужа спяшаўся на парламенцкіх выбарах, але ўсё роўна мая каманда апошняй атрымала рэгістрацыйнае пасведчанне. Таму мы здамо дакументы ў самы апошні момант. Я не гнаўся за колькасцю, як у 1999 годзе; я баюся падстаўных людзей у камандзе па зборы подпісаў», — сказаў Міхаіл Чыгір.

Паездку ў Маскву патэнцыйны кандыдат ад апазіцыі расцэньвае як магчымасць хоць зрэдку, але прарываць інфармацыйную блакаду вакол Беларусі.

«Удзел пасла АБСЕ ў расійскай тэлеперадачы (кіраўнік КНГ АБСЕ ў Мінску пасол Ханс-Георг Вік 7 чэрвеня выступаў на ОРТ у праграме Аляксандра Любімава «Здесь и сейчас». – **Р.Б.**) праз Варшаву гаворыць пра блакаду СМІ не толькі беларускіх, але і расійскіх. Такое ўжо здаралася і са мною, калі я мусіў выязджаць з Беларусі, каб даць інтэрв'ю Любімаву. Таму спадзявацца на падтрымку СМІ нам вельмі цяжка і складана. Але трэба сказаць вялікі дзякуй расіянам: нядаўна «пяцёрка» атрымала прапанову выехаць у Расію і прыняць удзел у перадачы Уладзіміра Познера «Времена», — сказаў за дзень да ад'езду ў Маскву М.Чыгір.

Патэнцыйны прэтэндэнт абвергнуў чуткі пра тое, што ён нібыта не можа балатавацца ў прэзідэнты з-за таго, што ў часе сваёй працы ў маскоўскім прадстаўніцтве нямецкай кампаніі Gea ён быў прапісаны ў расійскай сталіцы. (Заканадаўства дазваляе балатавацца ў прэзідэнты толькі тым, хто апошнія 5 гадоў стала жыў у Беларусі). «Я працаваў у Маскве нямногім менеі за год, і ніколі з Мінска не выпісваўся. Я кожныя выхадныя, апрача таго, прыязджаў сюды. Гэта была службовая камандзіроўка. І я ніколі не мяняў прапіскі – гэтыя плёткі распускаюць мае нядобразычліўцы. А мае нядобразычліўцы, найперш, сёння знаходзяцца ва ўладзе», — падкрэсліў Міхаіл Чыгір.

**Рыгор БУЯН**

# Кремлевский сюрприз для Лукашенко перед выборами

*Окончание. Начало на стр.1*

Совет безопасности РФ решил начать осуществление информационной поддержки этих двух кандидатов посредством НТВ. Как сообщили в этой телекомпании, аналитики Совбеза даже предписали показывать лишь следующие титры: «Леонид Синицын, вице-премьер правительства Белоруссии в 1994-1995 годах» (без слова «бывший» и упоминания о главе администрации) и «Наталья Машерова, депутат парламента Белоруссии» (без ссылки на непризнанное Национальное собрание), что призвано не смущать оппозиционный электорат.

После предварительной раскрутки на НТВ к полномасштабной информационной кампании в пользу одного из этих двух кандидатов подключатся ОРТ и РТР. На кого именно сделает ставку Кремль, будет решено по итогам официальной регистрации кандидатов.

Кроме того, в запасе у аналитической группы российского Совбеза есть и третий приемлемый кандидат из состава «белпятерки», имя которого пока не раскрывают.

В ближайшее время минские корпункты РТР и ОРТ «будут укреплены новыми кадрами» из Москвы, сообщили в Совбезе. На период белорусской предвыборной кампании в Минск будут откомандированы дополнительные съемочные группы.

«Мы не сомневаемся, что по итогам сентябрьских выборов Лукашенко сохранит президентские полномочия – в Национальном олимпийском комитете Белоруссии», — заявил источник в Совете безопасности России, напомнив о гродненском заявлении А.Лукашенко по поводу встречи экс-секретаря СБ Сергея Иванова в Вашингтоне, где России якобы запретили развивать интеграцию на всем постсоветском пространстве. «В Любляне мы на более высоком уровне обсудим более узкий вопрос – интеграцию России и Белоруссии, причем в период до 9 сентября», — сказал тот же источник, имея в виду предстоящую встречу президентов России и США.

